


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

21 мая 2004 года

№ 21 (472)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень


## Навіны рэгіёну

### Беларусаў больш

СМАРГОНЬ. Выпускнікі мінулых гадоў прайшлі рэгістрацыю ў аддзеле адукацыі на цэнтралізаванае тэсціраванне па беларускай і рускай мовах. На беларускую мову зарэгістравалася 145 былых выпускнікоў, на рускую – 80.

Сяргей ЗЯНЬКО.

### Грошы для школы

ВАЛОЖЫН. Выхаванцы Вішнеўскай сярэдняй школы выгадавалі траіх парасятаў, якіх напачатку вучэбнага года падарыў сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў "Агра-Вішнеўскі". Цяпер ужо дарослых свіней здалі на мяса (300 кілаграмаў). Грошы пойдуць на рамонт спартыўнай залы.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Тэсты на месцы

МЯДЗЕЛ. Цэнтралізаванае тэсціраванне пройдзе на базе СШ№1. Экзамен па беларускай мове будуць здаваць 432 выпускнікі гэтага і папярэдніх гадоў.

Святлана ЦІШКО.

### Маленькі конкурс

АШМЯНЫ. Гарадскі конкурс прыгажосці "Міні-міс 2004" адбыўся 13 мая ў Доме культуры. У ім удзельнічалі маленькія прыгажуні – па адной дзяўчынцы старэйшых груп з 5-і садоў горада. Перамагла Дыяна Гайдукевіч з сада №5.

Сяргей ЗЯНЬКО.

### Загінуў пешаход

МАЛАДЗЕЧНА. Жыхар горада на аўтамабілі "Форд Транзіт" 19 мая на вуліцы Янкі Купалы наехаў на пешахода, які ад атрыманых траўм памёр на месцы здарэння. Асобу загінуўшага ўстанаўліваюць.

Святлана ЦІШКО.

### Адсвяткавалі...

АСТРАВЕЦ. У вёсцы Кумпяны жанчына забіла сякерай свайго мужа. Дапамагала ёй у гэтым сяброўка. Цела закапалі ў хляве. Пракуратура вядзе следства. Падрабязнасці – у наступным нумары.

Сяргей ЗЯНЬКО.

### Народні з дарослымі

ВІЛЕЙКА. Духавы аркестр дзіцячай школы мастацтваў на рэспубліканскім конкурсе духавых аркестраў, што адбудзецца 21–23 мая, будзе народні змагацца з дарослымі калектывамі.

Святлана ЦІШКО.



# Смакаты было на кірмашы!



У кожнага кірмашу свой твар. Адзін запомніўся шматлікімі латарэямі, іншы – парашутыстамі, што прызямляліся проста на Цэнтральную плошчу горада. Абласны кірмаш, які прайшоў у Маладзечне 15 мая, адзначыўся нябачанай раней колькасцю дэгустацый. Можна было пакаштаваць розныя гатункі сыру, ёгурту, піва і таматнага соусу. На здымку: дэгустацыя малочнай прадукцыі ідзе поўным ходам.

Фота Святланы ЦІШКО.

## Хапала і песень пра адвечнае: няшчаснае каханне ды няўдалую сям'ю

**МАЛАДЗЕЧНА. Абласны кірмаш, які прайшоў 15 мая, вылучыўся нябачанай раней у горадзе колькасцю дэгустацый, што наладзілі маладзечанскія і красненскія вытворцы. Можна было пакаштаваць і купіць розныя гатункі сыру, ёгурту і кісламалочных напояў, піва і таматных соусаў.**

Кожны кірмаш запамінаецца чымсьці сваім, адметным. Гады тры таму ў горадзе прайшоў грандыёзны кірмаш: частка Вялікага Гасцінца была перакрытая, проста на праезнай частцы стаялі гандлёвыя палаткі, на газон на Цэнтральнай плошчы прызямляліся парашутысты... Свята крыху сапсаваў дождж. Летась на кірмашы было мноства бяспройгрышных латарэй: за адну колькавую плату выйгравалі хто ручку, хто гумку, а хто фотаальбомы.

Яшчэ адна адметнасць сёлетняга кірмашу – доўгія шашлычныя чэргі. "Я ўвесь кірмаш ганялася за шашлыкамі, пакуль не купіла нейкі чорны, мусіць, з ялавічыны, – сказала маладая пакупніца з Маладзечна. – Аддала 5 тысяч за некалькі кавалачкаў шашлыка! За гэтыя грошы можна было кілаграм добрага мяса купіць". Самы танны мясны атрыбут свята каштаваў крыху больш за 1000 рублёў. Дзешавей, чым у магазінах, можна было купіць, напрыклад, глазураваныя сыркі і сыр.

Свае вырабы выставілі таксама гарадскія навучальныя і пазашкольныя ўстановы: вышыўка, мяккія цацкі і розныя сувеніры. Работнікі СШ№5 настойліва прапаноўвалі пятрушку са школьнага агарода. СШ№8 – карціны з салёнага цеста, рамкі для фотаздымкаў, кухонныя дошкі, скураныя рамяні і футляры для акуляраў. Найлепш у СШ№8 разышліся, па словах намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце Людмілы Хурсан, рамкі для фота і кухонныя дошкі. "Самае цікавае, – сказала яна ў інтэрв'ю "РГ", – што дзеці прасілі не прадаваць, а толькі паказаць свае вырабы". Грошы, зробленыя на кірмашы, патлумачыла Людміла Хурсан, ідуць на закупку матэрыялу для новых вырабаў.

Святлана ЦІШКО.

Заканчэнне тэмы на 3-й стар.

### У пошуку мазгоў...




Карэспандэнт "РГ" вырашыла купіць свіныя мазгі...

3-я старонка

### Знайшоў праўду

Праваабаронца з Астраўца Іван Крук не будзе выплачваць 20 мільёнаў рублёў па іску былога начальніка міліцыі Уладзіміра Кабрынца.

4-я старонка

### Моўны тэст

Напярэдадні тэсціравання па беларускай і рускай мовах расказваем пра ўмовы іх правядзення.

7-я старонка

■ БІБЛІЯТЭКІ

## Выстава ў «Вераску»

**МАЛАДЗЕЧНА. За 2 дні каля 500 чалавек наведалі выставу нямецкай дзіцячай літаратуры, якая адчынілася 10 мая ў бібліятэцы сямейнага чытання «Верасок».**

На ёй прадстаўлены 103 кнігі на нямецкай мове: ілюстраваныя «Наша ежа» (што з ежай адбываецца ў арганізме чалавека), «Карова Глорыя» (для маленькіх), «Кніга ў кнізе ў кнізе» са спецыяльнымі акулярамі (малюнкі праз іх становяцца аб'ёмнымі), шмат энцыклапедый і іншыя кнігі.

Літаратуру даў інстытут Гётэ ў Беларусі. Выстава будзе працаваць да 27 мая. Пасля кнігі вернуцца ў інстытут Гётэ. Але яго прадстаўнікі Аляксандр Назарчук і Юлія Кныш абяцалі, што будуць мець на ўвазе «Верасок», калі інстытут атрымае новую партыю кніг з Германіі. На гэты раз бібліятэка атрымала ў падарунак відэафільмы і некалькі кампакт-дыскаў з энцыклапедыяй і пазнавальнымі гульнямі. «Інстытут мог даць і больш кампакт-дыскаў, але ў нас няма камп'ютэра, каб імі карыстацца», — сказала загадчыца бібліятэкі Марыя Кімпель.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПРЭМ'ЕРЫ

## «Палітра памяці»

**МІНСК. Прэм'ера дакументальнага відэафільма «Палітра памяці» рэжысёра Аляксандра Карпава адбылася 18 мая ў Палацы мастацтваў.**

Як паведаміў БелаПАН дырэктар УП «Беларускі відэацэнтр» Іван Колб, фільм расказвае пра Вялікую Айчынную вайну «з дапамогай твораў жывапісу беларускіх мастакоў на ваенную тэматыку». Стужка знята «Беларускім відэацэнтрам».

**Паводле БелаПАН.**



■ КОНКУРСЫ

# Конкурс у каледжы

**МАЛАДЗЕЧНА. Пяць навучэнак другога курса Маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа прэтэндавалі 13 мая на галоўны тытул конкурсу "Міс чароўнасць 2004". Сваёй прыгажосцю яны зачаравалі ўсіх прысутных.**

Шоу-праграма "Міс чароўнасць" стала ўжо традыцыйнай у гандлёва-эканамічным каледжы.

Канкурсанткі пазнаёмілі гледачоў і журы са сваім бачаннем прафесіі бухгалтара, паказалі выдатныя веды па бухгалтарскім уліку, і тым самым даказалі, што яны гонар і надзея краіны. Дзяўчаты здолелі пакарыць усіх сваім натхненнем, творчасцю, энэргіяй і маладосцю. Кожная з іх перакананая, што бухгалтар — гэта не чэрствы і сухі чалавек, які прыняты лічыць, а чалавек з багатым унутраным светам і адкрытым сэрцам.



**Таццяна Чуйко, навучэнка 206 групы гандлёва–эканамічнага каледжа, цэлы год будзе насіць ганаровы тытул "Міс чароўнасць 2004".**

Фота з гандлёва–эканамічнага каледжа.

У апошнім конкурсе дзяўчаты прадэманстравалі вячэрнія ўборы, у якіх зліліся ў адно мара і надзея, каханне і рамантыка... Гэта нагадала гледачам, што ўдзельніцы не толькі будучыя бухгалтары, але і чароўныя, прывабныя, пяшчотныя і зграбныя стварэнні.

Пераможцай стала навучэнка 206 групы Таццяна Чуйко, якая цэлы год будзе валодаць ганаровым тытулам "Міс чароўнасць 2004". Яе павіншавала і ўручыла карону Алена Крыўкіна — Міс дзелавая жанчына 2003 года. Анастасія Кабан, навучэнка 203 групы, уразіла ўсіх сваёй дзелавітасцю і арганізаванасцю і атрымала тытул «Міс дзелавая жанчына 2004». Узнагароджвалі канкурсантак Анатоль Арловіч, начальнік аддзела па справах моладзі райвыканкама, Эліна Багнюк, намеснік дырэктара гандлёва-эканамічнага каледжа і Алег Чараповіч, загадчык лабараторыі інфармацыйных тэхналогій каледжа.

**Аксана СЫМАНОВІЧ, выкладчыца каледжа.**

## Самая міласэрная

**ВІЛЕЙКА. "Міс міласэрнасць" названая фельчар кабінета прафілактыкі раённай паліклінікі Алена Жаўняровіч на конкурсе сярод маладых медыкаў, які прайшоў 13 мая. Пераможца атрымала ў падарунак кухонны камбайн "Алеся".**

У гэтыя дні ў бальніцах Беларусі праходзяць прысвячэнні ў прафесію маладых спецыялістаў. Напярэдадні – 12 мая – быў Міжнародны дзень медыцынскай сястры. Конкурс "Міс міласэрнасць" і быў прымеркаваны да гэтых падзей.

Удзел у конкурсе прымалі не толькі медыкі з горада, але і з сельскіх лячэбніц: Ільянскай бальніцы сястрынскага догляду, Вязынскай сельскай даўрачэбнай амбулаторыі. Спонсарамі правядзення мерапрыемства выступілі УП "Медтэхніка", ЗАТ "Белсэптык", таварыства Чырвонага Крыжа.

Свята пачалося з клятвы. Пасля чаго кожная з 12 сясцёр атрымала сертыфікат. А далей была конкурсная праграма, якая складалася з шасці частак: візітоўка, размінка, конкурс бутэрбродаў, "Хто я?", "Якая я?", кулінарны выраб, мастацкае самавызначэнне.

**Сяргей МАКАРЭВІЧ.**



## Асцярожна! Лінія электраперадач!

**Ахова ліній электраперадачы ад пашкоджанняў з'яўляецца важнай дзяржаўнай справай. Пашкоджанні іх выклікаюць перапынкі ў забеспячэнні электраэнэргіяй прамысловых і сельскагаспадарчых спажыўцоў, населеных пунктаў, наносяць вялікі ўрон народнай гаспадарцы, могуць прывесці да гібелі людзей.**

Маладзечанскія электрычныя сеткі папярэджваюць кіраўнікоў калгасаў, арганізацый, прадпрыемстваў, грамадзян аб неабходнасці захоўвання правіл аховы электрычных сетак да 1000 В і вышэй.

Вялікая колькасць пашкоджанняў ліній электраперадачы выклікае парушэнне правілаў вытворчасці работ паблізу ці пад правадамі ліній электраперадачы, работа на трасах ВЛ вежавых кранаў, сельскагаспадарчых машын і механізмаў, лесанарыхтоўчых работ, будаванне ўсемагчымых аб'ектаў без ведама электрасетак і г.д., а таксама іншыя прычыны (накідванне на правады, наезды на апоры ліній электраперадачы аўтатранспарту і сельгасмашын, датыканне да правадоў высокагабарытных механізмаў, прастрэлы ізалятараў, падзенне дрэў на правады і інш.).

Для захоўвання, стварэння нармальных умоў эксплуатацыі электрычных сетак устанаўліваюцца ахоўныя зоны.

Ахоўная зона паветраных ліній электраперадачы ўстанаўліваецца ўздоўж ліній электраперадачы ў выглядзе зямельнага ўчастка і паветранай прасторы, абмежаваных вертыкальнымі плоскасцямі, якія стаяць па абодва бакі ад крайніх правадоў пры неадхіленым іх становішчы на адлегласці.

Для ліній напругай да 1000 В – 2 м, да 20 кВ – 10 м, 35 кВ – 15 м, 110 кВ – 20 м, 220 кВ – 25 м, 330 кВ – 30 м.

Зямельныя ўчасткі, якія ўваходзяць ў ахоўныя зоны электрычных сетак, не адбіраюцца ў землекарыстальнікаў і выкарыстоўваюцца імі для правядзення сельскагаспадарчых і іншых работ з абавязковым захоўваннем патрабаванняў правіл аховы электрычных сетак.

Асабліва небяспечнае датыканне машыны і механізма непасрэдна да праваду ВЛ. Гэта магчыма пры рабоце машыны пад ВЛ, дзе можа адбыцца набліжэнне машыны на недапушчальна блізкую адлегласць да праваду, абрыў праваду і яго падзенне на машыну ці наезд машыны на абарваны провад.

Выкананне работ у ахоўнай зоне ВЛ з прымяненнем высокагабарытных машын і механізмаў павінна праводзіцца па нараду-допуску, выдадзенаму тэхнічным кіраўніцтвам уладальніка машын і механізмаў. Допуск да работ па нараду-допуску ажыццяўляе прадстаўнік электрычных сетак – уладальнік ВЛ.

**Забараняецца:**

– працаваць у пралётах ВЛ, дзе ёсць абарваныя правады, а таксама набліжацца да апор з абарванымі правадамі і падвяргаемых аднабаковаму прыцягненню, а таксама да саміх абарваных правадоў на адлегласці 20 м;

– набліжацца да апор ВЛ, у якіх ёсць прыкметы замыкання на зямлю (разбураны ізалятар, абарвана вязка, каля апоры выпарэнне вільгаці, пажар, на апоры гарыць дуга і г.д.), на адлегласці менш 20 м, а таксама працаваць у пралётах, якія прылягаюць да гэтых апор;

– выкананне земляных работ на глыбіні больш 0,3 м, а на ўзараных землях больш 0,45 м, на адлегласці менш 2 м ад апор, падкосаў без пісьмовага дазволу ўладальніка лініі;

– прымаць самастойна якія-небудзь меры па зняцці праваду з машыны рукамі, у тым ліку з дапамогай якіх-небудзь прадметаў;

– датыкацца да апор, залазіць на іх ці прывязваць да іх жывёл;

– накідваць ці прыстаўляць да правдоў ВЛ якія-небудзь прадметы;

– складваць кармы, угнаенні, салому, торф, дровы і інш., распальваць агонь у ахоўных зонах паветраных ліній электраперадачы;

– размяшчаць запраўчныя станцыі і іншыя сховішчы гаруча-змазачных матэрыялаў у ахоўнай зоне паветраных ліній электраперадачы;

– размяшчаць палявыя станы, устройваць загоны жывёлы, а таксама паліваць сельскагаспадарчыя культуры;

– работа стагакіда пад правадамі ВЛ;

– катэгарычна забараняецца запраўка машыны гаручым у ахоўнай зоне.

Машыны і механізмы патрэбна спыняць заўжды толькі па-за ахоўнай зоны ВЛ.

Пры аварыйным спыненні любой машыны ў ахоўнай зоне ВЛ яна павінна быць у найкарацейшы тэрмін адцягнута на буксіры з зоны.

Пры падзенні праваду ВЛ на машыну вадзіцель павінны тут жа спыніць машыну. Калі пры гэтым можна выслабаніць машыну ад абарванага праваду перамяшчэннем машыны, то неабходна гэта зрабіць як мага хутчэй і паведаміць аб здарэнні ў электрычныя сеткі.

У выпадку адсутнасці такой магчымасці назіральнік павінны паведаміць аб здарэнні ў электрычныя сеткі і да прыбыцця аварыйнай брыгады ні вадзіцель, ні назіральнік не павінныя прапрымаць ніякіх дзеянняў. Набліжацца да такой машыны бліжэй 20 метраў забараняецца.

Калі ў выніку наезду на апоры, падзення праваду ВЛ ці ўзнікнення электрычнага разраду машына загарыцца, то аслугоўваючы персанал павінны неадкладна яе пакінуць, але так, каб не было адначасовага сутыкнення чалавека з машынай і зямлёй. Лепш за ўсё скокнуць на зямлю на абедзве сагнутыя нагі, не трымацца за машыну, а аддаляцца ад яе можна толькі скачкамі на адной ці дзвюх самкнутых разам нагах ці гусіным крокам, не адрываючы ступні ног адна ад адной, зрабіўшы такім чынам шлях ад машыны на адлегласць 20 м. Аб здарэнні павінна быць паведамлена ў электрычныя сеткі па тэлефонах **(01773) 26585, 47070, 26552, 74134; Маладзечна, вул. Драздовіча, 27.** Да прыбыцця спецыяльнай брыгады электрасетак забараняецца прадпрымаць якія-небудзь дзеянні па пажаратушэнні машыны і набліжацца да яе бліжэй 20 м.

Вытворчасць работ у ахоўнай зоне ВЛ арганізацыямі, прадпрыемствамі і прыватнымі асобамі дазваляецца толькі пры пісьмовым дазволе і допуску Маладзечанскімі сеткамі.

Парушэнне правіл аховы ліній электраперадач, якое выклікала ці магло выклікаць перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энэргіяй, пашкоджанне электрычных сетак ці нанясенне іншага ўрону народнай гаспадарцы пацягне за сабой прыцягненне вінаватых у гэтым да строгай адміністрацыйнай адказнасці.

Адміністрацыйнае спагнанне не выслабаняе вінаватага ад пакрыцця матэрыяльнага ўрону ва ўстаноўленым парадку.

МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ ЭЛЕКТРЫЧНЫЯ СЕТКІ.

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Толькі не íграй

"Дзеці, у мяне для вас навіна, — сказала класны кіраўнік і, каб падкрэсліць значнасць моманту, падняла ўверх указальны палец. – З наступнага тыдня на базе нашай школы будзе працаваць выкладчыца музыкі. Усе, хто хоча навучыцца іграць на баяне, хуценька да мяне". Запісаўся ледзь не ўвесь клас.

Недзе праз паўгода з 14 маіх аднакласнікаў засталіся вучыцца музыцы толькі трое. Паставіла на паліцу баян, каб больш ніколі не ўзяць яго ў рукі, і я. А вось суседу Воўку не пашанцавала. Бацькі цвёрда вырашылі зрабіць з яго музыканта і кожны чацвер ледзь не сілай выпіралі на заняткі. "Томка, ты не ведаеш, з якой кнопкі пачынаецца песня "Зайчык", — пытаўся ў роспачы хлопец у маёй сястры перад урокам". "З "рэ", — падказвала тая і ставіла яго палец на патрэбную клавішу баяна".

Кар'ера суседа закончылася пасля канцэрта, прысвечанага Міжнароднаму дню 8 Сакавіка. Паслухаўшы ў выкананні сына песню "Сулико", маці схапілася за галаву і вырашыла больш не мучыць дзіця. У рэшце рэшт не ўсім жа быць музыкантамі.

Сапраўдныя анекдоты расказвала пра сваю вучобу ў аналагічнай школе і мая сяброўка. Што яна толькі не рабіла, каб прапусціць заняткі. Перазводзіла стрэлкі гадзінніка, піла халодную ваду, каб захварэць, а аднойчы пасля дажджу села ў самую вялікую лужыну.

Дзякуючы музычнай школе адна мая калега, будучы школьніцай, зарабіла першыя ўсваім жыцці грошы. "Хочаш рубель?" — слухаючы, як яна гадзіну запар рыпае баянам, пыталася старэйшая сястра. "Хачу," — бясхітрасна адказвала дзяўчынка. "На, толькі не íграй", — прасіла тая і працягвала грошы.

"Кінуў бы музычную школу, — разважаў, зайшоўшы ў госці, аднакласнік майго сына. Ды бацька не дазваляе. Кажа, навучышся добра іграць, будзеш вяселлі бацаць, бабкі зарабляць". Думаю, што не толькі гэта спакуса спрыяла выдатнай Віталікавай вучобе. У хлопца былі відавочныя схільнасці да музыкі. Слухаючы яго выступленні падчас канцэртаў, не раз угаворвала сына запісацца ў музычную школу. Ён моршчыўся і з надзеяй пазіраў на бацьку, які цвёрда ўпэўнены ў тым, што куды-куды, а ў музыку "сунуць" дзяцей без жадання нельга. Не спрачаюся, у мужа ёсць уласны вопыт.

Бацькі жадаюць сваім дзецям толькі дабра. Кожнаму хочацца, каб сын альбо дачка выраслі усебакова развітымі і разумнымі людзьмі. А што для гэтага трэба? Правільна, развіваць здольнасці, і як мага раней. Цяжка ў восем-дзевяць гадоў вызначыць, да чаго ў дзіцяці большыя схільнасці: музыкі, малявання, спеваў, лёгкай атлетыкі. Вось і запісваюць ва ўсе гурткі і школы падрад. Добра, калі гэта дзецям у радасць. А калі не, ці варта прымушаць? Давайце падумаем над гэтым пытаннем разам.



**Разважала Марына СЛІЖ.**

■ БАЗАР

# Мазгі – нарасхват

**МАЛАДЗЕЧНА. “У вас ёсць вушы, а язык, хвост, ногі, мазгі?“ Гэта не кастынг на конкурс прыгажосці. Такія пытанні кожны базарны дзень гучаць у мясной лаўцы. Я ж зацікавілася мазгамі па 3500 рублёў за кілю, амаль самым танным мясным прадуктам.**

Прадавец мяса **Галя Арловіч** гаворыць, што яны далікатныя і мяккія. На мазгі вялікі попыт, іх хутка разбіраюць. Адна пакупніца штораз бярэ па 2 кілаграмы: муж любіць. Мне заўсёды цікава, ці прыбаўляецца розуму ад свіных мазгоў у чалавека? І чаму не прадаюць цялячыя, каровіны? Прадаўцы патлумачылі, што гандляваць імі не выгадна. Маўляў, колькі ж мазгоў у цяляці ды каровы. Іх прадаюць адразу з галавой (ці ў галаве?!). Людзі з невялікім дастаткам бяруць на халадзец. Кажуць, смачна. Уладальнікі тоўстага кашалька – на сняданак сабаку. Вось свіння, іншая справа – 50 грамаў мазгоў у кожнай (для параўнання: 1,5 кілаграма ў дарослага чалавека).

Гэтая колькасць “разумнага” рэчыва дапамагае ім адшукваць выбухоўкі ў Ізраілі. Нібыта ў свінні нюх на іх развіты лепш, чым у сабакі. У Францыі – “вынюхваюць” труфеля – клубнепадобныя грыбы, якія выкарыстоўваюць у якасці прыправы да страў.




Сапраўдныя свіныя мазгі можна купіць на маладзечанскім рынку.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Часцей за ўсё свіныя мазгі купляюць бабулькі, а таксама для дзяцей. Гандлярка **Тамара Кучэра** вычытала, што мазгі карысныя для здароўя. Але ж сама не есць. Кажа: “Маці да мазгоў не прывучыла. Каб хто ўжо на гатовыя запрасіў.” **Валянціну Лях** калегі з базара называюць вялікай знаўцай і аматаркай мазгоў. Пакаштавала іх гадоў 20 таму. Гэта ж так смачна, хутка і лёгка гатаваць!

**Абсмажыць на алеі цыбулю, потым – мазгі, з абодвух бакоў, папярэдне можна абкачаць у муцэ, тушыць не трэба. Апетытна начыніць імі блінчыкі і з'есці мазгавыя катлеты.**

Усё, думаю, куплю. І посуду не шмат мыць: ваду ж гарачую адключылі. Мая сяброўка таксама любіць мазгі. Заўважыла, што ад іх становіцца разумнейшай, паляпшаецца настрой. Нечакана ў размову ўлілася прадавец піражкоў і папярэдзіла: мазгі нельга ўжываць тым, хто пакутуе на халецыстыт, у каго хворыя ныркі, і ўвогуле не такія яны ўжо і карысныя, а мо, і небяспечныя для чалавека. Тамара Кучэра перапыніла яе: “ Я лепш вас рулеты з вушэй рабіць навучу. Пакупніца расказала: Крыху адварыце вушы. Пакладзіце туды фарш...”

Усё ж такі, пабаяўшыся купіць мазгі, вырашыла пагутарыць з медыкамі. Яны сцвярджаюць: разумнейшым ад таго, што з'ясі гэты мясны прадукт, дакладна не станеш. Адны кажуць: мазгі для чалавека карысныя. Напрыклад, доктар-эпідэміёлаг тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Аляксандр Кобрусеў зазначыў:

— Мазгі на сённяшні дзень — адзін з найбольш багатых тлушчавай тканкай прадукт, ёсць у іх і біялагічна актыўныя рэчывы. Яны не з'яўляюцца абмежаваннем ці выключэннем для дзяцей або хворых. Гэтая ежа, зразумела, пасля пэўнай апрацоўкі, падыходзіць кожнаму. Толькі наўрад назавеш яе дыетычнай.

Іншыя ж медыкі супраць ужывання ўвогуле ўсіх унутраных органаў жывёлаў, бо яны накшталт прадуктаў адходу.

Так я і засталася з поўнымі вушамі і без мазгоў.

Ірына РАБУШКА.

## Курсы валют НБ РБ

| | 13.5 руб. | 20.5 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2156,00 | 2154,00 |
| Еўра | 2561,65 | 2585,45 |
| Злоты | 538,09 | 549,63 |
| Літ | 741,95 | 748,87 |
| Расійскі рубель | 74,19 | 74,30 |
| «Вулічныя» курсы ў Маладзечне | | |
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 12.5 | 19.5 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13900 | 13900 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1100 | 1100 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1350 | 1400 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2200 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2000 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 950 | 1000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 480 | 380 |
| Морква, 1 кг | 400 | 300 |
| Лімоны, 1 кг | 3000 | 2600 |
| Апельсіны, 1 кг | 2100 | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1400 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 4900 |
| Тварог, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1800 | 1800 |
| Сала, 1 кг | 3200 | 3000 |
| Бульба, 1 вядро | 1800 | 1500 |
| Бульба малад., 1 кг | | 3900 |

## Кіёск пераехаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Адзін з самых папулярных газетных кіёскаў “Белсаюздруку“ ў Маладзечне, што месціўся каля калгаснага рынку, пераехаў.**

Цяпер “Рэгіянальную газету“ і іншыя выданні можна купіць у кіёску, што знаходзіцца на рагу рынку збоку дзіцячай бальніцы.

Аддзел інфармацыі “РГ“.

# Сезоннасць кірмашу

**Працяг тэмы з 1–й стар. МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі абласны кірмаш, які прайшоў 15 мая ў Маладзечне, збірае ўдзельнікаў і гасцей з розных куткоў вобласці і суседняй Гродзеншчыны. Наколькі важны ён для Маладзечна?**

Кірмашы праходзяць у розных гарадах Мінскай вобласці. Таму дату маладзечанскага кірмашу, сказаў у інтэрв'ю па тэлефоне першы намеснік старшыні гарвыканкама Яфім Ідэльчык, гарадскія ўлады ўзгадняюць з аблвыканкамам, каб прадпрыемствы гандлю і вытворцы маглі паўдзельнічаць у розных. Адны прадпрыемствы самі хочуць удзельнічаць, некаторыя запрашае горад.

Непасрэдна горад не атрымоўвае выгаду. Гэта выгадна найперш тым прадпрыемствам, якія прапануюць свае тавары. У розных прадпрыемстваў гэта атрымоўваецца па-рознаму. У Маладзечна, па словах Яфіма Ідэльчыка, заўсёды з жаданнем едзе Слуцкі мясакамбінат. “На кірмашы былі людзі. На наш погляд, іх было нямала, — сказаў ён. — Значыць гэта выклікае цікавасць, нягледзячы на тое, што гэтыя тавары штодня можна набываць у нашых магазінах, на рынках. Але ўсё ж людзі прыйшлі на кірмаш, значыць ім падабаецца. Таму мы будзем такія мерапрыемствы ладзіць і надалей, улічваючы сезоннасць: вясенні кірмаш – сваё адценне, асенні – свае спецыфічныя асаблівасці”.



Паўлінцы з калектыву “Лебедевские лицедеи” ўдалося знайсці сабе партнёра для танцаў з шэрагу гледачоў.

Фота Святланы ЦІШКО.

Культурную праграму прадстаўлялі калектывы з Маладзечна, Лагойска, Вілейскага, Маладзечанскага, Мядзельскага раёнаў. Для выступленняў былі абсталяваны 4 пляцоўкі, некаторыя калектывы вандравалі з адной пляцоўкі на другую. Над Цэнтральнай плошчай гучалі нашы песні пра адвечнае: няшчаснае каханне, няўдалае сямейнае жыццё і пакуты дзяўчыны, якую не бяруць замуж. На дзіцячай пляцоўцы каля помніка пакутнікам за незалежнасць Беларусі выступала цыркавая студыя “Мара”: маленькая артыстка, дзяўчынка гадоў 12-13, круціла адразу 5 ці 6 рознакаляровых абручоў. Каля райвыканкама “Лебедевские лицедеи” ў складзе пана Быкоўскага, Альжбэты і Паўлінкі расказвалі гледачам паказкі са свайго жыцця, цягнулі танцаваць і вучылі цалавацца праз паперку.

Святлана ЦІШКО.

■ ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## Правялі мяжу

**СМАРГОНЬ. Зону адказнасці за чысціню прыватных гаспадарак вызначылі ў Смаргоні і раёне па ініцыятыве інспекцыі па прыродных рэсурсах. Цяпер яна праходзіць па сярэдзіне вуліцы, а калі падвор'е стаіць на беразе рэчкі, то па яе фарватэру.**

Рашэнне, спадзяюцца ў інспекцыі, дапаможа навесці парадак, ліквідаваўшы стыхійныя сметнікі. Новаўвядзенне ў Смаргонскім раёне распаўсюджваецца і на лецішчы.

Алег БЯГАНСКІ.

# Кавуны і дыні – у Беларусі

**У рэдакцыю прыйшло пісьмо ад нашага чытача Івана Ляўко з Вілейскага раёна, які піша: "Пастаянна чытаю вашу газету. Знаходжу шмат новага і цікавага для сябе. Асабліва падабаюцца парады для садаводаў і агароднікаў. Прашу падрабязна расказаць на старонках газеты пра кавуны і дыні, спосабах іх вырошчвання ў Беларусі".**

Адказвае наш пастаянны аўтар, вядучы рубрыкі "Парады садавода і агародніка" Альбін МАКАРЭВІЧ, аграном.

## Кавун – самая буйная і карысная ягада

З батанічнага пункту погляду плод кавуна – самая сапраўдная ягада (гарбузіна), найбольш буйная з усіх вядомых сёння навуцы. Дзікі кавун, які і цяпер яшчэ сустракаецца на радзіме ў Паўднёвай Афрыцы (у паўпустыні Калахары), важыць усяго каля 250 грамаў, культурны ж кавун цягне амаль на пуд.

Кавун утрымлівае набор розных рэчываў і не ведае ў раслінным свеце сабе роўных па ўтрыманні вітаміна В9 – фоліевай кіслаты, якая садзейнічае ўтварэнню крывяных цельцаў і балансуе хімічныя працэсы, якія пастаянна адбываюцца ў нашым арганізме. Гэты вітамін асабліва неабходны людзям, якія пакутуюць на малакроўе, на захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, печані і нырак.

У кавуне ўтрымліваюцца таксама вітаміны В1, В2, РР, С, карацін (правітамін А). Багаты кавун макра- і мікраэлементамі, прычым важна тое, што гэтыя элементы знаходзяцца звязанымі ў арганічных рэчывах, і таму лягчэй і лепш засвойваюцца арганізмам чалавека. Так, у 100 г кавуна ўтрымліваецца ў сярэднім 65 мг калію, 16 – кальцыю, 16 – натрыю, 7 – фосфару, 1 мг жалеза. А вось па ўтрыманні магнію – 225 мг – у кавуна няма роўных не толькі сярод агародніны і садавіны, але і сярод усіх вядомых прадуктаў харчавання. Солі магнію асабліва неабходныя людзям, якія перанеслі розныя гепатыты, таксікацыі, пры алкагольным цырозе печані, хранічным халецыстыце, жоўцекаменнай хваробе.

Здаўна кавун прымяняюць пры атлусценні і празмерным харчаванні ў якасці разгрузачнай ежы. Мякаць кавуна на 88-90% складаецца з вады, пры адносна невялікай каларыйнасці ставарае адчуванне сытасці. Для разгрузачнага дня выкарыстоўваюць да 2 кг кавуна ў суткі. Кавун – цудоўны мачагонны сродак, што прадухіляе ўтварэнне камянёў і пяску.

## Асаблівасці вырошчвання кавуноў

Кавуны вырошчваюць ў паўднёвых і паўднёва-ўсходніх краінах СНД. Аднак добры ўраджай атрымліваюць і агароднікі Беларусі, калі прымяняць расадачны спосаб ці вырошчваць кавуны ў парніках і цяпліцах. Добра сябе зарэкамендавалі хуткаспелыя сарты Ружа Паўднёвага Усходу, Агамёк, Суцэльналісцевы 215, сярэдняспелыя – Быкоўскі 22 (ураджайны і транспартабельны), Волжскі 7 (цукровасць да 12%). Заслужаным аўтарытэтам карыстаюцца ў агародні-



**Кавун утрымлівае набор розных рэчываў і не ведае ў раслінным свеце сабе роўных па ўтрыманні вітаміна В9 – фоліевай кіслаты, якая садзейнічае ўтварэнню крывяных цельцаў і балансуе хімічныя працэсы, якія пастаянна адбываюцца ў нашым арганізме. Гэты вітамін асабліва неабходны людзям, якія пакутуюць на малакроўе, на захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, печані і нырак.**

каў і старыя сарты – Любімец хутара Пяцігорска 286, Стокса 647/649, Пераможца 395, Сквірскі хуткаспелы 10 і Жаўтакорык.

Расаду вырошчваюць у ганчарных, поліэтыленавых ці торфаперагнойных гаршчочках. Запаўняюць іх перагноем, торфам і дзярновай зямлёй у роўнай колькасці ці перагноем і дзярновай (1:1). Расаду вырошчваюць 25-40 дзён, пакуль не вырастуць 4-5 сапраўдных лісцяў. Высаджваюць у адкрыты грунт у другой-трэцяй дэкадзе чэрвеня, калі міне небяспека замаразкаў. Плошча харчавання павінна быць 1х1,4 ці 2х1,5. Часцей за ўсё кавуны вырошчваюць на градах шырынёй 100 см з прамежкавай дарожкай 40 см. Тады расаду высаджваюць у лункі ў 2 рады з шырынёй міжрадкоўя 50 см і паміж раслінамі ў радзе 100-140 см. Расаду паліваюць падагрэтай да 25-30 градусаў вадой (1-2 л на лунку) і засыпаюць да семядольных лісцяў агароднай зямлёй, а зверху ў радыусе 10 см яшчэ і пяском, каб засцерагчы расліны ад карнявой гнілі. Прымяняюць поліэтыленавыя ўкрыцці, пры гэтым расліны часта праветрываюць, а ў цёплае сонечнае надвор'е і адкрываюць цалкам.

Кавуны добра растуць, калі высяваць іх насенне ці высаджваць расаду ў паравыя ямы, па 4 расліны на яму. Глебу неабходна запраўляць добра перапрэўшымі арганічнымі ўгнаеннямі (не менш 100 кг на 10 кв.м).

У перыяд вегетацыі раслін увагу надаюць падкормкам, палівам і пасынкаванням. У першыя дні пасля высадкі расады кавуны паліваюць праз дзень, а ў перыяд выспявання пладоў – адзін раз у 7-10 дзён. Пры невялікім падсушванні глебы плады спеюць хутчэй і становяцца цукрыстымі. Першую падкормку праводзяць праз 7-10 дзён пасля высадкі расады, а другую і трэцюю – з прамежкамі ў 12-15 дзён. Падкормліваюць курыным памётам ці гнойнай жыжкай, разводзяць іх вадой у суадносінах 1:10 і выліваюць 1 л раствору пад кожную расліну. Пры магчымасці на вядро раствору даюць 1 шклянку драўлянага попелу. Калі няма арганічных угнаенняў, то прымяняюць мінеральныя – 8-10 г аміячнай салетры, 40-60 г суперфасфату і 10 г хлорыстага калію на лунку ці 60-70 г агароднай сумесі. Пасля ўнясення мінеральных угнаенняў глебу ў лунцы паліваюць і рыхляць, а пры разведзенай вадой арганічнай падкормцы – толькі рыхляць.

У кавуноў сцябло паўзучае і, каб яно лепш было замацавана на паверхні глебы, яго у 2-3 месцах прышчыпваюць драўлянымі кручкамі і прысыпаюць глебай. У гэтых месцах утвараюцца прыдатачныя карані, што паляпшае харчаванне раслін. Пасля ўтварэння 3-4 пладоў усе астатнія завязі выдаляюцца, а верхавінкі пасынкаў прышчыпваюць. Бакавыя пасынкі, якія не даюць пладоў, выразаюць.

## Як вызначыць спеласць кавуна?

Спеласць вызначаюць па гуку пры пастукванні пальцам па кавуне. Гук павінны быць чыстым, звонкім. Праўда, у кавуноў з тоўстай скуркай гук высокі, а з тонкай – некалькі ніжэйшы. На спеласць указвае ўсыханне вусіка ў пладаножкі і пасвятленне афарбоўкі плоду і яе бліскучасць.

## Чым жа добрая дыня?

Дыня, як і кавун, утрымлівае 88-90% вады. Цукраў у дыні не больш за 10%, але ў адрозненне ад кавуноў цукар дыні прадстаўлены не фруктозай і глюкозай, а менш салодкай цукрозай, г.зн. звычайным для нас цукрам. Ёсць у дыні і іншыя карысныя рэчывы – мінеральныя солі і мікраэлементы, вітаміны і арганічныя кіслоты. Шмат жалеза і вітаміна С – у 3 разы больш, чым у кавуноў. Багатая дыня і такім элементам, які перашкаджае выпадзенню валасоў і накапленню ў печані тлушчу і халестэрыну.

У народнай медыцыне пры кашлі прымяняюць экстракт з насення дыні, а пры рэўматызме – націранне з соку з мякаці. Навуковая медыцына рэкамендуе дыню тым, хто пакутуе на сардэчна-сасудзістыя захворванні, хваробы печані і нырак.

**Багатая дыня і такім элементам, які перашкаджае выпадзенню валасоў і накапленню ў печані тлушчу і халестэрыну.**
**У народнай медыцыне пры кашлі прымяняюць экстракт з насення дыні, а пры рэўматызме – націранне з соку з мякаці.**



## Асаблівасці вырошчвання дыні

Дыня, як і кавун, расліна вельмі цеплалюбівая. Агароднікі Беларусі вырошчваюць такія сарты, як хуткаспелы Алтайскі, сярэдняспелы Калгасніца 749/753, а таксама сорт Казачка 244.

Дыню лепш вырошчваць расадным спосабам. Расаду да высадкі пасынкуюць над 3-4 лістом. Высаджваюць яе на ўцеплены грунт у выглядзе паравых ям і пад плёнку з 15 па 20 мая, а на неўцеплены грунт – у канцы мая — пачатку чэрвеня. Расаду высаджваюць на адлегласці рад ад раду 1,5 м, а паміж раслінамі – 0,75 м. Пасля завязвання пладоў у раслін пасынкуюць другі раз над 4-5 лістом.

Убіраюць дыні па меры паспявання – пасля з'яўлення жоўтай ці жаўтавата-карычневай афарбоўкі пладоў, утварэння на іх своеасаблівай сеткі і пасля адставання пладаножкі ад плода, а яшчэ па водару.

## Прышчэпка дыні на тыкву

Агароднікі вырошчваюць дыні спосабам прышчэпкі іх на тыкву. Як паказаў шматгадовы вопыт, дыні, прышчэпленыя на тыкве, больш устойлівыя да холаду, менш хварэюць, даюць плады большыя і больш смачныя, ды і ўраджай вышэйшы.

У якасці прышчэпы бяруць буйнаплодную тыкву. Тыкву (прышчэпа) і дыню (прышчэпак) вырошчваюць побач, у адным гаршчочку, але насенне тыквы высяваюць на 2-3 дні пазней, чым насенне дыні. Тэрмін высеву выбіраюць з такім разлікам, каб у адкрыты грунт высадзіць прышчэпленыя расліны ва ўзросце 30-35 дзён. Калі высадка расады ў адкрыты грунт запланавана 1-5 чэрвеня, то насенне высяваюць 15-20 красавіка, а прышчэпліваюць дыню праз 12-14 дзён пасля пасеву, калі ў тыквы пачне адрастаць другі ліст. Спосаб прышчэпкі: у тыквы выдаляюць верхавінную пупышку, у якой намеціўся другі лісцік. Паварочваюць гаршчок так, каб першы сапраўдны ліст знаходзіўся з супрацьлеглага боку. Затым на сцябло тыквы праз семядольны вузел робяць зверху ўніз разрэз даўжынёй 1,5-2 см. Разрэз павінны даходзіць да полай прасторы сцябла. Потым зразаюць дыню, пакідаюць толькі ў яе падсемядольнае калена даўжынёй 2-2,5 см, і на зрэзанай верхавіне дыні, з боку абедзвюх семядолек, здымаюць тонкі эпідэрміс (вонкавае покрыва скуркі) такой даўжыні, як і разрэз тыквы. Пасля гэтага верхавінны чаранок дыні кладуць у разрэз на тыкве так, каб бакавыя часткі зрэзу прышчэпы і прышчэпка супалі. Месца прышчэпкі абвязваюць мяккай мачалай ці чыстай поліэтыленавай плёнкай. Накрываюць слоікам.

Першы час прышчэпленыя расліны трохі хаваюць ад прамых сонечных прамянёў. Паліваюць цёплай вадой, а раніцай і вечарам слоік падымаюць для праветрывання.

Пасадку прышчэпленых раслін і догляд за імі праводзяць такі ж, як і пры пасадцы непрышчэпленай расады.

Догляд за раслінамі дыні такі ж, як і за пасадкамі кавуна.

■ ЛЕТА

# Падлетка вучым працаваць

**МАЛАДЗЕЧНА. У штогадовай акцыі па арганізацыі часовага працаўладкавання моладзі, якая праходзіць з 1-га чэрвеня па 31-га жніўня, будзе ўдзельнічаць 500 навучэнцаў школ і ПТВ горада і раёна. На гэтыя мэты Дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці (ДФСЗ) насельніцтва выдаткуе 50 мільёнаў рублёў.**

"Мы дзейнічаем на падставе рашэнняў гарадскога і раённага выканкамаў, – гаворыць намеснік дырэктара рэгіянальнага цэнтра занятасці Таццяна Мучынская, – заключаем дагаворы з аддзеламі адукацыі, ПТВ і ўстановамі, якія будуць браць падлеткаў на работу. Складаем каштарысы, папярэдняй аплатай пералічваем грошы для закупкі інвентару, будаўнічых матэрыялаў і спецвопраткі».



З-за недахопу дзяржаўных грошай на выплату заработнай платы, стыпендыі і ўтрыманне Маладзечанскага прафесійна-тэхнічнага вучылішча №87 чацверты год навучэнцы гэтай установы працуюць для гараджан. Вырабляюць мангалы, вешалкі, кручкі, саўкі і шмат чаго іншага, рамантуюць бытавую электратэхніку. Па словах майстра вытворчага навучання і спецпрадметаў па металаапрацоўцы Ігара Квачонка, штомесяц падлеткі зарабляюць 50-80 тысяч рублёў.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Для работы ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы і бібліятэцы «Верасок» выдзелена 15 месцаў – па 5 на кожны летні месяц. Дзеці будуць перапляταць кнігі. У інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў – 6 месцаў – працаваць на агародзе. 10 навучэнцаў зоймуцца добраўпарадкаваннем памяшкання БРСМ. Перавагу аддадуць непаўналетнім з малазабяспечаных сем'яў і сіротам. Работу арганізуюць у адпаведнасці з працоўным заканадаўствам: дзеці 14-16 гадоў працуюць палову рабочага дня, 16-18 гадоў – 7 гадзін.

Маладзечанскі аддзел адукацыі вызначыў 6 школ, у якіх на базе летніх лагераў працы і адпачынку вучні будуць зарабляць грошы: фарбаваць падлогу і сцены, клеіць шпалеры. Гэта школы №№ 2, 4, 5, 8, 9 і гімназія-каледж. Выбралі тыя, што не былі ў мінулым годзе. Шкада толькі, што практыка абмежаваная – 18 дзён у чэрвені. Ліпень і жнівень – месяцы адпачынку настаўнікаў, ды і грошай у фонду занятасці на ўсе лета не хопіць. У астатніх школьнікі таксама будуць праходзіць практыку, але бясплатна. Прафесійна-тэхнічныя вучылішчы горада самі знойдуць работу сваім навучэнцам, а зарплату ім будзе выплачваць зноў жа фонд занятасці. У ПТВ-87 будуць рабіць рамонт, а ў ПТВ-135 – шыць пасцельную бялізну для дзіцячых садкоў і ўласнага інтэрната.

### Працоўныя месцы для моладзі

| Прадпрыемства | Месцы | Выдаткі з ДФСЗ |
|---|---|---|
| Гарадскі аддзел адукацыі | 309 | 30 млн.руб. |
| Бібліятэкі | 15 | 2,4 млн.руб. |
| ПТВ-87 | 30 | 3,0 млн.руб. |
| ПТВ-135 | 30 | 3,0 млн.руб. |
| Інтэрнат для састарэлых | 6 | 0,6 млн.руб. |
| БРСМ | 10 | 1,0 млн.руб. |
| Раённы аддзел адукацыі | 70 | 7,0 млн.руб. |
| ПТВ-42.Беразінскае | 30 | 3,0 млн.руб. |
| **Усяго** | **500** | **50 млн.руб.** |

За месяц работы ў школе, ПТВ ці бібліятэцы, па словах Таццяны Мучынскай, падлетак можа зарабіць каля 70000 рублёў.

Больш пашанцавала тым, чые бацькі працуюць на прадпрыемствах горада. 15 прадпрыемстваў розных формаў уласнасці павінны ўзяць на работу на летні перыяд, самастойна забяспечыць працай і зарплатай 50 навучэнцаў. Канешне ж, кіраўнікі бяруць найперш дзяцей сваіх супрацоўнікаў. І не толькі на адзін месяц, але і на ўсе лета. Жадаючых жа нашмат больш, і цэнтр занятасці не можа дапамагчы ўсім.

20 сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў раёна ўладкуюць на працу 100 вучняў сельскіх школ.

Гэта ўсё, што могуць прапанаваць гарадскія і раённыя ўлады. Шукаючы іншую работу, падлеткі могуць разлічваць толькі на ўласную фантазію і прадпрымальнасць.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Як «сачкануць» з урока?

**Толькі адзін з апытаных – доктар-хірург Анатоль Зяноўка – адказаў, што з урокаў увогуле сачкаваць не трэба, бо чагосьці ты не будзеш ведаць. Ён заўсёды прытрымліваўся гэтай думкі і хадзіў на ўсе заняткі. На ўроку не можа быць не цікава.**



**Іван Мацюк, дызайнер:**

— Проста не пайсці ды ўсё. Ва універсітэце нават і не пытаюцца, чаго на заняткі не прыйшоў. Сачкуюць, таму што не цікава. У школьнікаў, дык і пакаранне невялікае: заўвага ў дзённіку. Студэнтаў і навучэнцаў хоць выключыць з установы могуць. Але нашую моладзь і гэтым не напужаеш. Тым, хто вучыцца за дзяржаўныя грошы, трэба узмацніць пакаранне за пропускі без прычыны.



**Наталля Грыб, педагог:**

— Папрасіцца выйсці ў прыбіральню і на заняткі не вярнуцца. Так было падчас маёй вучобы. Мне падабалася сачкаваць ва універсітэце. 15 хвілін чакалі выкладчыка, а потым разбягаліся, хто куды, нават калі бачылі яго на гарызонце. Увогуле сачкуюць не з-за таго, што дрэнны вучань ці настаўнік, – гэта ж неад'емная частка вучобы.



**Святлана Космач, кастэлянка:**

— Заняцца фізічнай працай. Калі я не выўчыла ўрокі, адразу захоплена пачынала капаць бульбу, прыбіраць кватэру, мыць бялізну. І маці, дарэчы, настаўніца, ніколі не адрывала мяне. Цяпер дзеці сачкуюць, бо ў іх шмат не самых лепшых спакусаў, накшталт курэння і забаваў.



**Ілья Васільеў, навучэнец:**

— «Забіць» даведку ў доктара. Паскардзіцца на болі ў жываце, тэмпературу, якая была ўчора, высокі ціск. Каб яго ўзняць, варта скруціць на нагах пальцы. Высокую тэмпературу таксама можна зрабіць: нацерці падпахай соллю і перцам або пакласці туды цёплую батарэйку, а лепш прыйсці са сваім "правільным" градуснікам і падмяніць у патрэбны момант.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ФЕСТЫВАЛЬ

## Доўгайграючыя піянеры

**МАЛАДЗЕЧНА. Фестываль дзіцячых і маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў, што адбыўся 19 мая, сабраў 10 з усіх 11 арганізацый горада. Кіраўнікі ўсіх арганізацый горада атрымалі граматы і падарункі ад аддзела па справах моладзі гарвыканкама.**

У адведзеныя для выступлення 4 хвіліны не ўклаўся ніводзін калектыў. Але найбольш часу, напэўна, заняла піянерская арганізацыя. Хвілін 20-25 прысутныя слухалі піянераў і пра піянераў, назіралі, як найлепшых піянераў узнагароджваюць мядзведзікамі, а іх кіраўнікоў – блакітнымі пакетамі з надпісам Nivea, як піянерскія арганізацыі горада атрымліваюць ад аддзела адукацыі свае сцягі. Зразумела, 19 мая – іх свята, дзень нараджэння арганізацыі. Але мерапрыемства на афішы пазначана як "Фестываль дзіцячых і маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў", а не "Агульнагарадскі піянерскі збор". Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі сціпла ўклаўся ў 11 хвілін. Маладым і актыўным піянерам для самапрэзентацыі спатрэбілася ўдвая больш часу.

**Аркадзія ЦІШУК.**

■ АБІТУРЫЕНТУ

## Тэсціраванне па мовах

**Напярэдадні тэсціравання па беларускай і рускай мовах абітурыентам хацелася б даведацца пра ўмовы іх правядзення.**

Напярэдадні тэсціравання патрэбна было зарэгістравацца, каб вас унеслі ў базу дадзеных па вашым рэгіёне. Незарэгістраваныя асобы не будуць дапускацца да яго правядзення.

Праводзіць тэсціраванне даручана цалкам незалежным асобам, сярод якіх няма ніводнага філолага. Таму падказваць ніхто не зможа. Нават размеркаванне аўдыторыяў, дзе будуць праводзіць тэсціраванне, будзе праходзіць у самы апошні момант.

З сабою абітурыенты павінны мець ручку з капілярным стрыжнем чорнага колеру, пашпарт і пропуск на тэсціраванне. Пабочныя прадметы яны павінны пакінуць дома. Сотавыя тэлефоны таксама. За карыстанне імі абітурыенты могуць быць выдалены.

У вызначаны час фельд'егерская служба прывязе матэрыялы тэсціравання і забярэ яго вынікі. Работы не будуць правярацца па месцы правядзення. Таму перад запаўненнем адпаведных бланкаў патрэбна ўвага да сказанага адказным арганізатарам, які будзе інструктаваць абітурыентаў.

Праверка дакументаў будзе праводзіцца некалькі разоў, каб у аўдыторыі не з'явіліся пабочныя асобы. Таму не варта нават спрабаваць прайсці тэсціраванне за каго-небудзь.

У час тэсціравання вас папярэдзяць, калі застанецца паўгадзіны і чвэрць гадзіны да яго заканчэння. Час на выкананне тэстаў разлічаны на 110 хвілін з моманту атрымання яго абітурыентамі. Таму лепш адказваць на тыя пытанні, адказы на якія вы ведаеце. А ўжо пасля думаць над астатнімі.

Пасля правядзення тэсціравання абітурыенты арганізавана пакідаюць месца яго правядзення. За гэтым будуць сачыць адпаведныя людзі. Даведацца пра яго вынікі вы зможаце праз два ці тры тыдні.

Правяраць работы будзе камп'ютэр, таму патрэбна звярнуць увагу на узор напісання літар на бланку. У выпадку няправільнага адказу ў вас будзе магчымасць паправіць адказ, нічога не папраўляючы ў бланку.

Толькі ў Маладзечне будзе тэсціравацца каля 1700 чалавек, з якіх толькі 800 з'яўляюцца выпускнікамі гэтага году. За ходам тэсціравання будзе сачыць дзяржаўны кантроль, які ў кожнай аўдыторыі будзе мець свайго назіральніка. У выпадку надзвычайных сітуацыяў прадугледжана другое месца правядзення тэсціравання. Так што не трэба перашкаджаць яго правядзенню.

У выпадку парушэння парадку правядзення абавязковага цэнтралізаванага тэсціравання адказны сакратар мае права выдаліць абітурыента з аўдыторыі. Знайсці ж інструкцыю па правядзенні тэсціравання можна ў Зборніку нарматыўных актаў Міністэрства адукацыі №7 за 2004 год.

Аб умовах правядзення тэсціравання гаварылася на нарадзе настаўнікаў, якую правёў 18 мая Маладзечанскі гарадскі аддзел адукацыі.

А ад сябе жадаю выдатных поспехаў у гэтай справе.

**Падрыхтаваў да публікацыі Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ З ГІСТОРЫІ ПРОМЫСЛАЎ

# Бляск і галеча гуты «Залессе»

## Шклозавод «Залессе» ля Ілы – самае старое з дзеючых прадпрыемстваў рэгіёну. Яму амаль 240 гадоў

**Заканчэнне.**
Пачатак у папярэднім нумары "РГ".

**Размешчаная сярод лесу, удалечыні ад гарадоў, гута заўсёды мела танную рабочую сілу. Сярод рабочых-гутнікаў заўсёды было многа дзяцей і жанчын. Умовы працы на гуце былі такія, што нават даросламу цяжка было вытрываць больш за 2-3 гады запар. Тым не менш, да 1882 года на шклозаводзе працавалі дзеці ад 8 да 16 гадоў. Асноўнай прычынай гэтаму была нізкая аплата дзіцячай працы. Калі сярэдні месячны заробак мужчыны складаў 25 рублёў і 96 капеек, жанчыны – 10-12 рублёў, дык у падлетка ён быў роўны 6 рублям 64 капейкам.**

Ёсць звесткі, што ў часы першай рускай рэвалюцыі 1905 года тут была праведзеная маёўка рэвалюцыйна настроеных рабочых гуты, куды ўпершыню прыбыў малады Янка Купала з мэтай распаўсюджвання нелегальнай літаратуры, атрыманай ад Аляксандра Бурбіса – аднаго з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Другі раз гэта прадпрыемства ўжо даволі вядомы паэт наведаў летам 1911 года, калі ён жыў у недалёкіх Акопах (Лагойшчына). Вынікам гэтага ў першай беларускай газеце "Наша ніва" з'явіўся вострасацыяльны публіцыстычны артыкул "З гуты "Залессе", падпісаны псеўданімам "Ня-гутнік". Аўтар апісаў жахлівыя ўмовы працы рабочых, бессаромную эксплуатацыю падлеткаў: "Пякельная гарачыня, безупынная бегатня, бразгатня бітага шкла; калі-нікалі крык або плач апечанага дзіцяці...". Купала адзначаў, што зарплату рабочым выплачвалі нерэгулярна, нярэдка па частках або замест грошай выдавалі квіткі, у выніку чаго адбывалася зніжэнне і без таго нізкай заработнай платы. Гэту гуту, па словах паэта, яшчэ тады называлі Ільскай. Відаць, не выпадкова дасылаў пазней у "Нашу Ніву", калі галоўным рэдактарам яе працаваў сам Янка Купала, свае лісты юнак з гуты "Залессе" Аляксандр Альшэўскі, які пасля заканчэння народнага вучылішча, не маючы сродкаў на далейшую вучобу, працаваў памочнікам каля печы, вырабляючы аптэкарскі посуд. А яму вельмі хацелася выўчыцца на мастака.

Амаль 20 гадоў завод не працаваў. У 1923 годзе ў рабочым пасёлку, дзе мелася 26 двароў, пражывала 149 жыхароў. Займаліся яны пераважна сельскай гаспадаркай. Толькі ў 1936 годзе было створана "Таварыства па аднаўленні і эксплуатацыі" завода "Залессе". Прадалі 45 паёў па 100 злотых. Пайшчыкамі таварыства сталі былыя кваліфікаваныя рабочыя і майстры з закрытага каля Вільні аналагічнага прадпрыемства – усяго 42 чалавекі. Яны ўдзельнічалі ў аднаўленні гуты, а кіраваў справай спрактыкаваны спецыяліст Браніслаў Сцефановіч, яго выбралі і старшынёй кааператыва. У другой палове 1937 года завод пачаў выпускаць прадукцыю, пераважна лямпавае і аконнае шкло, а таксама аптэкарскі посуд.

**З далучэннем у верасні 1939 года Заходняй Беларусі да БССР і ўтварэннем Ільянскага раёна ў падпарадкаванні мясцовага райпрамкамбіната знаходзіўся і шклозавод "Залессе". У пачатку 1941 года на ім працавала 150 чалавек, але шклотрэст рэспублікі адмаўляўся ад гэтага прадпрыемства.**

За час свайго гаспадарання ў гады Вялікай Айчыннай вайны нямецкія акупанты вывезлі з "Залесся" ўсё, што толькі можна было, будынак гуты ператварылі ў дзот, знішчылі амаль увесь пасёлак. Выпадкова захавалася толькі сем дамоў.

Аднаўленне народнай гаспадаркі рэспублікі, у тым ліку і шклозавода "Залессе", пачалося з першых дзён пасля вызвалення. Залесцы адрамантавалі ўцалелае абсталяванне, нарыхтавалі на месцы неабходныя віды сыравіны і паліва і ў канцы 1944 года змаглі пусціць гуту. Першай прадукцыяй адноўленага завода быў сартавы посуд. Затым у самы кароткі тэрмін быў наладжаны выпуск так неабходнага краіне аконнага шкла, якога ў 1944 годзе было выпушчана 12, а ў 1945 годзе – 28 тысяч квадратных метраў. Крыху пазней была асвоена вытворчасць ізалятараў для тэлефонных ліній.

**Вялікі ўклад ў пасляваеннае адраджэнне завода і яго далейшае станаўленне ўнеслі як даваенныя спецыялісты-шкляры, так і новае пакаленне гутнікаў. Сярод іх выдзяляецца Васіль Мордас. Былы партызан мясцовай брыгады імя Фрунзе, ён нязменна ўзначальваў завод з 1945 да 1971 года. Гэта яго намаганнямі пасёлак шклозавода "Залессе" ў 1969 годзе атрымаў назву Партызанскі, а само прадпрыемства з невялікага ператварылася ў буйное індустрыяльнае. Даваенны ўзровень (1940 г.) выпуску прадукцыі завод дасягнуў у 1953 годзе.**

З пункту гледжання рацыянальнага размяшчэння месца гуты не зусім удачнае. Таму кіраўніцтва завода ў 1960 годзе вымушана было стварыць на чыгуначнай станцыі "Уша" (мястэчка Краснае) перавалачную базу. Праз яе прадпрыемства праводзіла адгрузку гатовай прадукцыі, а таксама атрымлівала і завозіла асноўную сыравіну, матэрыялы і паліва. Калі раней на гуце карысталіся мясцовым кварцавым пяском, які дабывалі ўручную за 500 м ад завода, то з цягам часу запасы яго пачалі заканчвацца, і з 1960-х гадоў сталі завозіць з Лоеўскага (Гомельская вобласць) месцанараджэння.

Акрамя шкляных вырабаў, прадпрыемства пачало рэалізоўваць не толькі па ўсім Савецкім Саюзе, але і на экспарт сілікатную глыбу, або як яе яшчэ называюць – "вадкае" шкло.

У 1968 годзе толькі адных слоікаў пад закручванне накрыўкамі быў выпушчаны 1 мільён 750 тысяч штук. 25 гадоў таму на прадпрыемстве працавала 494 чалавекі.

Разам з заводам развіваўся і пасёлак. Будаваліся новыя шматпавярховыя дамы, школа, дзіцячы сад, аб'екты іншай інфраструктуры. Важкі ўклад у гэта ўнеслі Ігар Трусаў, Іван Рыбак, Міхаіл Ціхончанка, якія ў свой час не адзін год працавалі кіраўнікамі завода.

Але з сярэдзіны 1990-х гадоў ужо мінулага стагоддзя прадпрыемства стала перыядычна ліхарадзіць. Упаў попыт на выпускаемую прадукцыю, страчаны рынак яе збыту з-за нізкай канкурэнтаздольнасці. Пачалі скарачацца працоўныя месцы. Сапраўдны крызіс наступіў у ацяпляльны перыяд 2000-2001 гадоў. Спынілася вытворчасць, каля 30 працаўнікоў завода вымушаны былі пайсці ў непрадбачаны адпачынак.

1 сакавіка з дапамогай грашовых і іншых уліванняў прадпрыемства аднавіла сваю дзейнасць, але толькі да 5 кастрычніка, бо было спешна закрыта на рэканструкцыю. Яна пачалася вельмі актыўна і бурна, але і рэзка закончылася яшчэ на пачатковым этапе, калі закончылася фінансаванне.

Завод перадаецца на баланс Мінскай абласной пладова-гароднiннай гаспадаркі і амаль цалкам спыняе сваё існаванне, захаваўшы за сабой вялікую запазычанасць перад дзяржавай і іншымі арганізацыямі. У яго штаце налічваецца цяпер каля 10 чалавек – выконваючы абавязкі дырэктара, бухгалтар, вартаўнікі...

Калісьці квітнеючае прадпрыемства, якое для многіх яго працаўнікоў і жыхароў пасёлка з'яўлялася не толькі сродкам заробку, але і сэнсам жыцця, зноў чакае гістарычнага вырашэння свайго лёсу.

**Анатоль РОГАЧ.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Май 44-га

**Я доўга ўглядаўся ў гэтыя здымкі, шукаючы сябе, сваіх бацькоў і сяброў. У тым годзе я скончыў вучыцца ў 1-м класе Красненскай народнай беларускай школы. Час зрабіў сваю справу – не пазнаў.**

Тады школа існавала ў будынку, які і цяпер стаіць у Красным на рагу вуліц 1 мая і Багдановіча. Ён быў пабудаваны ў першай палове 20–х гадоў для аркестра польскага войска. Пасля 1939 года тут быў склад збожжа, а пры немцах месцілася школа.

Канцэрт школьнікаў адбыўся ў пачатку мая 1944 года. Вайна не адчуваецца. Немцаў не бачна. Адзіны немец – фатограф, які кожную копію аддаваў за яйка.

Дзеткі танчылі пад цымбальную музыку Рамана Мешкуця, сына знакамітага музыкі Пятра Мешкуця. Можна ўявіць, як цяжка яму, малому, было несці бацькавы цымбалы аж з Радашкаўскай вуліцы басанож.

Вал фронту ўжо блізка ад Краснага. Месяцы праз два ўсё будзе спалена, а мы, дзеці, перажывём увесь гэты жах сканчэння вайны ў Красным.

**Алесь ХАРЫТОН.**



**Вал фронту ўжо блізка ад Краснага. Месяцы праз два ўсё будзе спалена, а мы, дзеці, перажывём увесь гэты жах сканчэння вайны ў Красным.**

Фота з альбома Юрася Дубовіка, Салігорск.

■ КАЛЯНДАР

**21 мая. 135 гадоў з дня нараджэння Мікалая Чуркіна** (1869-1964), беларускага кампазітара, фальклярыста, народнага артыста Беларусі.

**21 мая. 60 гадоў з дня нараджэння (1939) Валянціны Петрачковай**, беларускай актрысы, заслужанай артысткі Беларусі.

**22 мая. 50 гадоў з дня нараджэння (1954) Канстанціна Хацяноўскага**, беларускага мастака.

**22 мая. 145 год з дня нараджэння Артура Конан Дойла** (1859–1930), англійскага пісьменніка.

**22 мая. 105 год з дня нараджэння Уладзіміра Набокава** (1899–1977), руска-амерыканскага пісьменніка.

**24 мая. Дзень славянскага пісьменства і культуры.**

**24 мая. 100 гадоў з дня нараджэння Адама Русака** (1904-1987), беларускага паэта-песенніка ("Бывайце здаровы"), заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**25 мая. 85 гадоў з дня заснавання (1919) Беларускага дзяржаўнага музея.** Існаваў да 1942 г.

**27 мая. 90 гадоў з дня нараджэння Антона Бялевіча** (1914-1978), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**27 мая. 60 гадоў з дня нараджэння (1944) Валерыя Бартосіка**, расійскага і беларускага рэжысёра.

